## Прадмова да беларускага чытача

Задума напісаць кнігу, якая б асвятляла пытанні гісторыі мясцовай адміністрацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім у часы Чатырохгадовага сойма, зарадзілася даволі неспадзявана. Яшчэ ў 90-я гады XX ст., працуючы над дысертацыяй, якая была прысвечана сацыятапаграфіі Гародні ў XVIII ст., я шчасліва натрапіў на шматлікія матэрыялы гарадзенскай Камісіі добрага парадку, што дзейнічала ў горадзе ў 70—80-я гады гэтага стагоддзя, і парадкавай цывільна-вайсковай камісіі Гарадзенскага павета часоў Чатырохгадовага сойма. З часам больш грунтоўнае азнаямленне з архіўнымі, бібліятэчнымі і музейнымі зборамі дазволіла выявіць шматлікія актавыя кнігі і ўніверсалы парадкавых камісій розных паветаў, якія складаліся пачынаючы з канца 1789 г. да лета 1792 г. Гэты даследчыцкі абшар на той час быў абсалютна некранутым, што і падштурхнула мяне да яго распрацоўкі.

Пошукі ў архіўных і бібліятэчных зборах Менска, Гародні, Вільні, Варшавы і Кракава завяршыліся ў 2008 г. На падставе назапашаных матэрыялаў была падрыхтавана дысертацыйная манаграфія, якая ўбачыла свет у 2010 г. Беларуская версія кнігі дапрацавана на падставе каштоўных заўваг рэцэнзентаў, якім аўтар выказвае вялікую ўдзячнасць.

Перш чым растлумачыць актуальнасць вывучэння мясцовай адміністрацыі ў ВКЛ, зраблю некалькі заўваг наконт гістарычных даследаванняў, якія, магчыма, могуць грашыць суб’ектыўнасцю. За апошнія гады даследаванні па гісторыі ВКЛ значна пашырыліся. Разам з тым нельга не пазбегнуць уражання, што яны канцэнтруюцца на вывучэнні палітычнай гісторыі. У той жа час шматлікія пытанні сацыяльна эканамічнай, культурнай гісторыі ці рэформ дзяржаўнага ладу надалей застаюцца ў цяні. Беларуская гістарыяграфія значна саступае еўрапейскай у плане вывучэння гісторыі XVIII ст., што ў значнай ступені тлумачыцца “перарванасцю” і перафарматаваннем беларускай гістарыяграфічнай традыцыі пачынаючы з 30-я гадоў XX ст., табуяваннем акрэсленых гістарычных пытанняў у савецкія часы. Нагнаць страчанае за даволі кароткі храналагічны адрэзак не так проста.

Цяпер некалькі слоў наконт даследаванага перыяду. На працягу ўсяго XVIII ст. у Еўропе адбываўся працэс фармавання і развіцця разгалінаванага адміністрацыйнага апарату, дзейнасць якога ажыццяўлялася на аснове прынцыпаў цэнтралізму, калегіяльнасці, спецыялізацыі, а таксама нарматыўнага рэгулявання, г.зн. прынцыпаў прававой дзяржавы. Менавіта ў гэты час з’яўляецца новая кадравая прафесійная група “бюракратаў”. У аналізаваны час паняцце “бюракратызм” (зрэшты, што цікава, і “ідэалогія”) не мела негатыўнай афарбоўкі. Першы тэрмін у той час азначаў адміністрацыйны апарат, якая складаўся з т.зв. бюро, у якіх працавалі чыноўнікі, другі — навуку аб ідэях.

Да фактараў, якія зрабілі ўплыў на адміністрацыйныя пераўтварэнні ў Еўропе ў XVIII ст., трэба аднесці тагачасную адміністрацыйную думку і асабліва камералістыку. У гэты час кафедры камеральнай навукі (Kameralwissenschaften) былі заснаваны ў Франкфурце-на-Одэры, Вене і Гётэнгене. Праўда, яе распрацоўкі мелі збольшага інструментальны характар і былі накіраваны на пошукі эфектыўных форм кіравання, якія б маглі прычыніцца да ўзмацнення дзяржаўнай улады, падтрымкі гаспадаркі, спагнання падаткаў ды ўвогуле павышэння дабрабыту насельніцтва.

З цягам часу з камеральнай думкі пачалі вылучацца самастойныя дысцыпліны, у тым ліку “права паліцыі”. Адсюль у XVIII ст. сістэма дзяржаўнага кіравання акрэслівалася тэрмінам “паліцыя”, які выводзіўся з грэцкага слова πολιτεία, г.зн.

зладжанага апарата ўлады. Не выпадкова фундаментальная праца Нікаласа дэ Ла Мара называлася “Трактат аб паліцыі”.

У Рэчы Паспалітай ідэя мадэрнізацыі сістэмы дзяржаўнага кіравання пачала паступова ўвасабляцца ў жыццё ў другой палове XVIII ст., калі былі створаны Скарбовая, Вайсковая і Адукацыйная камісіі. Функцыю найвышэйшага органа дзяржаўнай улады ў 1775—1788 гг. выконвала Пастаянная Рада. У перыяд Чатырохгадовага сойма Пастаянная Рада, якая стала прадметам вострых сутыкненняў, была ліквідавана, а ролю найвышэйшага выканаўчага органа пачала выконваць Варта правоў. Акрамя таго, адміністрацыйная сістэма зазнала чарговыя змены, сведчаннем чаго было з’яўленне Камісіі паліцыі, г.зн. органа цэнтральнага кіравання, які займаўся пытаннямі адміністрацыі.

Урэшце ў выніку амаль што гадавых парламенцкіх дэбатаў у лістападзе 1789 г. сойм прыняў рашэнне аб заснаванні парадкавых цывільна-вайсковых камісій, якія, па сутнасці, былі першымі ў нашай гісторыі органамі мясцовай адміністрацыі. Іх усталяванне было паскорана рашэннем сойма аб павелічэнні рэгулярнага войска, якое мела дыслакавацца ў розных рэгіёнах краіны. Менавіта гэты фактар спрычыніўся да пошукаў фінансавых сродкаў на ўтрыманне арміі.

Камісіі, якія былі заснаваны ва ўсіх паветах і ваяводствах Вялікага Княства Літоўскага, займаліся раскватараваннем ды забеспячэннем войск рэкрутамі і харчовымі прадуктамі, разглядам спрэчак паміж вайскоўцамі і цывільным насельніцтвам. Акрамя таго камісіі праводзілі збор падаткаў. У іх абавязкі ўваходзіў нагляд за станам шляхоў зносін, корчмаў, мер і вагаў, а таксама цэнаў на прадукты. Дзякуючы дзейнасці камісараў былі складзены першыя грунтоўныя спісы насельніцтва ўсяго княства. Заслугай камісій было таксама ўвядзенне пашпартоў, якія выдавалі просьбітам на акрэслены час.

Я не імкнуўся абмяжоўваць даследаванне выключна дзейнасцю мясцовай адміністрацыі як установы ці органа ўлады. У захаваных крыніцах знайшлі адлюстраванне розныя аспекты паўсядзённага жыцця розных саслоўяў, прафесійных ці этнаканфесійных груп. Я стараўся глыбей вывучыць гісторыю мясцовых супольнасцяў. Праз прызму дзейнасці парадкавых камісій можна ўбачыць усебаковую панараму тагачасных гарадоў: праблемы добраўпарадкавання іх прасторы, стану аховы здароўя і аптэкарскай справы, адукацыі, стаўлення мяшчан да юрыдык ды габрэйскага насельніцтва, адносін гарадоў да старастаў.

Цывільна-вайсковыя парадкавыя камісіі, заснаваныя ў 1789 г., паклалі пачатак мясцовай адміністрацыі на літоўскіх і беларускіх землях. Нягледзячы на тое, што камісіі спынілі існаванне ўлетку 1792 г., у час вайны з Расіяй, станоўчыя эфекты іх дзейнасці не выклікаюць аніякіх сумненняў.

Упэўнены, што далейшыя архіўныя пошукі дазволяць запоўніць чарговыя прабелы ў нашых ведах аб XVIII стагоддзі і прыадчыняць яшчэ не адну сваю таямніцу.